Цана асобнага нумару 20 гр.

Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 19. Вільня, Панядзелак 28 Чэрвеня 1926 г. Год II.

# СЯЛЯНСКАЯ НІВА

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:
Вільня, Полацкая вул. 4. — (Wilno, ulica Połocka 4).

Рэдакцыя адчынена штодня ад 9 да 6 гадзіны апрача сьвята.

Газэта выходзіць раз у тыдзень.

Падпіска на адзін месяц 1 зл., на 3 мес.—2 зл., на 6 мес.—4 зл., на год—8 зл.

Перамена адрэсу 30 гр.



ОРГАН БЕЛАРУСКАГА СЯЛЯНСКАГА САЮЗУ.

## Дыктатура ці дэмакратызм.

Новы польскі ўрад, выплыўшы на верх на хвалях майскага перавароту, нарэшце пачынае выяўляць свой праўдзівы воблік.

Гэты ўрад, пад знакам „маральнай санацыі“, апошнім часам пастанавіў зьмяніць польскую Канстытуцыю і падаў у Сойм свой праект зьменаў. Важнейшыя пункты гэтага праекту выглядаюць так:

1) Сойм, сабраны ў верасьні на звычайную сэсію будзе замкнуты пасьля ўплыву чатырох месяцаў ад дня прадстаўленьня ўрадам Сойму праекту бюджэту. Калі ў працягу гэтага часу дзяржаўны бюджэт ня будзе ўхвалены, праект бюджэту, зложаны ўрадам, атрымлівае моц уставы (арт. 4) і будзе абвешчаны ў Дзеньніку Устаў, як распараджэньне Прэзыдэнта Рэчыпаспалітай.

2) Каб сабраць Сойм на жаданьне паслоў патрэбна, каб гэта жаданьне было падпісана больш як паловай усіх паслоў; і то Сойм мае быць тады скліканы ў працягу аж 30 дзён.

3) Прэзыдэнт Рэчыпаспалітай можа распусьціць Сойм і Сэнат на прапазыцыю Рады Міністраў.

4) Выбары адбудуцца ў працягу 120 дзён (4 месяцы) ад дня роспуску; тэрмін іх будзе вызначаны ў пастанове Прэзыдэнта аб развязаньні Сойму і Сэнату.

5) Прэзыдэнт Рэчыпаспалітай можа ў працягу 30 дзён пасьля атрыманьня ўхваленай уставы зажадаць у ўматываванай пастанове разгледзіць яе другі раз. Калі Сойм зьвернутую ўставу ўзноў прыме бяз зьменаў абсалютнай большасьцю ўставовага ліку паслоў, Прэзыдэнт Рэчыпаспалітай загадае аб'явіць яе.

6) Прэзыдэнт Рэчыпаспалітай у часе, калі Сойм і Сэнат разьвязаны (распушчаны), або калі мандаты паслоў і сэнатараў спыняюцца, аж да часу новага сазыву (сбору) Сойму і Сэнату можа выдаваць распараджэньні з моцай уставаў.

7) Цяперашняе звычайная сэсія Сойму мае быць закрыта ў ліпні г. г. На час ад ліпня 1926 г. да 31 сьнежня 1927 г. упаўнаважываецца Прэзыдэнта Рэчыпаспалітай да выдаваньня распараджэньняй з моцай уставаў.

Вышэй паданыя пункты зьменаў Канстытуцыі імкнуцца загнаць Сойм у „казіны рог“, ня даць яму магчымасьці ня толькі прымаць законаў патрэбных для народу і адпавядаючых яго імкненьням, але не дапусьціць яго да кантролю над дзяржаўным бюджэтам, над сьцягіваньнем падаткаў і расходаваньнем урадам грошаў. Дэмакратычны лад апіраецца перадусім па ўстаноўленьні выбранымі прадстаўнікамі народу дзяржаўнага бюджэту. Гэта ёсьць першае аснаўное права дэмакратычных канстытуцыяў. Паводле новага праекту польскай канстытуцыі гэтая права так абмяжоўваецца, што трудна спадзявацца, каб Сойм мог фактычна скарыстаць з яго. Калі-б наш Сойм патрапіў разгледзіць бюджэт у працягу чатырох месяцаў, то Прэзыдэнт на аснове новай Канстытуцыі (арт. 35) можа палажыць сваё „вэто“ (забарону) на скарбовую ўставу (бюджэт) і пасьля, як сэсія будзе замкнута проста агаласіць урадавы праект, а ня той які прыняў Сойм.

Што да іншых уставаў, то Сойм абсалютна пазбаўлены права выдаваць якія-нібудзь законы, калі яны ня будуць падабацца Прэзыдэнту. Дапусьцім урад падае ў Сойм праект уставы аб зямельнай рэформе ў працягу першай паловы соймавай сэсіі. Сойм можа вельмі шыбка разгледзіць гэту ўставу і парабіць у ёй патрэбныя зьмены, так што пасьля двух месяцаў устава пойдзе ў Сэнат. У Сэнаце ўстава пабудзе адзін месяц і вернецца ў Сойм. Сойм прыме ўставу у тэй ці іншай форме і пашле яе да Прэзыдэнта. Прэзыдэнту не падабаюцца соймавыя зьмены ўрадавага праекту ўставы і ён у працягу 30 дзён заяўляе сваё „вэто“. Калі падлічым цяпер увесь час, які быў патрэбен на ўсе гэтыя працэдуры, то акажацца, што ад часу злажэньня ўрадам праекту да часу заяўленьня Прэзыдэнтам „вэта“ ўплывае больш як 4 месяцы. А паводле новай Канстытуцыі і Сойм зьбіраецца на чатыры месяцы. Такім чынам на „вэто“ Прэзыдэнта Сойм ня мае магчымасьці сабрацца і прыняць яшчэ раз той самы закон. Дык астаецца Прэзыдэнту толькі самому выдаць свой закон не аглядаючыся сусім на волю выбранага прадстаўніцтва. Калі цяпер прымем пад увагу тое, што Прэзыдэнт мае права распускаць Сойм і ў атсутнасьці яго выдаваць правамоцныя законы, то выходзе зусім ясна, што ўрад будзе самадзержаўна камандаваць, будзе мець найлепшыя праўныя абставіны дыктатара.

Як відзім майскі пераварот імкнецца да дыктатуры, да такога праўнага ладу, які заўсёды падабаецца найбольш буржуазным і капіталістычным клясам. Ужо гэта апошняя фраза можа даць нам адказ на тое, ці мы, беларусы, павінны стаяць за дыктатуру, ці за дэмакратызм. Рэч ясная, дыктатура польскага ўраду ня можа быць прызнана беларускім сялянствам. Мы добра ведаем, што гэта значыць дыктатура міністра, бо пад міністрам сядзіць ваявода, а пад ваяводай староста, а пад старастай іншыя дробныя ўраднікі і паліцыя. Гэты апошні род уладаў фактычна, нягледзячы на цяперашнюю Канстытуцыю, спраўляўся з беларусамі, як сапраўдны самадзяржавец; даўнейшы губэрнатар можа не патрапіў-бы таго даканаць, што вельмі лёгка даконваюць польскія ўлады на нашых землях. Цяпер гэтым самым людзям—урадоўцам мае быць забясьпечана поўная свабода; могуць яны не баяцца таго, што за іх надужыцьці ў Сойме паслы будуць дамагацца справядлівасьці, будуць дамагацца сьледства і кары за надужыцьці, бо Сойм, паводле новай Канстытуцыі, утраце сваю вагу. Праўда, цяперашні склад Сойму нічога няварт для нашага сялянства, але гэта не азначае, што дарогай агульнага, роўнага і прапарцыянальнага галасаваньня сялянства і працоўныя масы ня дойдуць да сваей улады.

Дык сусім ясна, што зьмены Канстытуцыі, імкнуцца да дыктатуры ўраду, перавагі бюракрацыі над голасам народу. Гэта дыктатура ляжа цяжкім каменям перш-наперш на карк нацыянальных меншасьцяў — на карк працоўнага беларускага сялянства.

Адказам на гэты новы наход дыктатараў павінна быць арганізацыя беларускага сялянства, якое дружнай супольнай сілай скарэй дабецца сабе лепшай будучыны.

## Як вызваліцца з рук прыватных гандляроў?

Калі ў восені гаспадар зьбірае з поля, гароду і саду прадукты свайго вырабу, дык цешыцца, што ўсяго мае шмат, будзе што і прадаць і аставіць для свайго ўласнага ўжытку. Ну, кажа, у гэтым годзе пашанцавала: адзенімся, абуемся і падаткі заплацім. А напраўдны лёс сяляніна стаіць за дзьвярамі і рагоча: «пачакай, брат, хваліцца, паглядзём, што будзе на вясну?».

Прыходзіць зіма і гаспадар з жахам бачыць як збожжа ўцякаець з кадушачак, а падаткі не заплачаны і абутку няма. Мінулі каляды, мясаед і вясна наступіла. Прыносе солтыс новыя падаткі. Гаспадар бачыць, што справа дрэнь — ідзе яшчэ раз да пустых ужо кадушак, гляніць на іх і сумна адыходзіць у старану, бо праконываецца, што ўсё яго збожжа неяк марна згінула; нічога ня купіў, грашэй няма і есьці таксама няма чаго. Паскрабе за вухам селянін, охае, сёрбае посную зацірку ды бульбу і зноў прыступае да сваей катаржнай работы. Гэтак з году ў год да самай сваей сьмерці. Не адзін так і памірае з праконаньнем, што так ужо трэба на гэтым сьвеце.

Такі жудасны канец нашага жыцьця прыходзіць ад таго, што мы вякамі сьпім, жывем у цемнаце, ня можам зразумець ўсей вагі арганізаванага жыцьця. А тымчасам з нашай незараднасьці карыстаюць найбольш спрытныя нашы купцы і перакупшчыкі, займаючыся пераважна дробным гандлям, спэкуляцыяй, вызыскам, даючы за наш хлеб такую цану, якая ім уздумаецца. Гэту апэрацыю яны праводзяць спакойна, не сьпяшаючы, бо пэўны ў сваіх сілах яны добра ведаюць, што селянін са сваім хлебам нікуды ад яго ня дзеніцца: раней ці пазьней прынясе яму. І трэба аддаць

**Азотавыя-гнаі.** Да мінэральных гнаёў, абагачаючых грунт азотам, належуць швэдзкая і чылійская сялітры, азатняк, серчаны аманяк. Гнаі гэтыя радзей ужываюцца ў гаспадарках навет і ў заможных, а ў сялянскіх да гэтага часу бадай яшчэ нігдзе і ніколі ня ўжываліся. Азотавыя гнаі, як было казана раней, маюць уплыў на буйны рост лісьця і саломы. Усе гнаі гэтай групы ў параўнаваньні з фосфаровымі і паташовымі адлічаюцца сваей высокай цаной. З азотавых гнаёў найболей ужываюцца сялітры і серчаны аманяк, хоць у апошнія часы стаў пашырацца яшчэ азатняк.

Сялітры і серчаны аманяк подобны на выгляд на звычайную соль, ад вільгаці зьліваюцца ў камы. Дзеля таго, што сялітра надта хутка распушчаецца ў вадзе і разам з вадой пераходзіць ў глыбейшыя слаі грунту, або зьбегаець у канавы, то яна высеваецца або разам з насёнай збожжа, або тады як зерняты ужо пусьцюць расткі. Азімыя хлябы ўгноіваюцца сялітрай два разы. Першы раз у восень пры пасеве збожжа, а другі раз рана вясной, пасьля сьнегу, асабліва калі рунь рэдкая і слабая. Ад пасыпкі сялітры рунь хутка пачынаець кусьціцца і йсьці ў гару. Пасыпка сялітрай вясной азімых пасеваў заўсёды бываець надта карыснай, асабліва ў сьцюдзёныя зацяжныя вёсны, калі кусьцістасьць руні йдзець надта марудна і ў восень пасеяны хлеб добра няўруніў. Ужываецца сялітры на дзесяціну ад 4 да 6 пудоў. Калі сялітра кладзецца два разы, то палавіпа яе кладзецца пры пасеве збожжа, а палавіна па ўсходах ці вясной. Добра класьці салетру пад гародныя расьліны і пад расаду, ад яе яны хутка і буйна йдуць у рост.

Серчаны аманяк і азатняк ужываецца ў тэй самай колькасьці як і сялітра. Дзеля таго, што яны ня так хутка як сялітра распушчаюцца ў радзе, іх можна высеваць адразу ў поўнай колькасьці. Азотавыя гнаі ужываюцца толькі пад каласавое збожжа і гародніну. Пад гарох, боб, канюшыну, віку і другія мятлікавыя расьліны яны не кладуцца, дзеля таго, што гэтыя расьліны самі дастаюць з паветра азот і абагачаюць ім грунт.

**Паташовыя гнаі.** Добрым паташовым гноем трэба лічыць звычайны попел, які застаецца ў печы пасьля згараньня дроў. Але попел толькі тады будзець добрым гноем, калі ён увесь час будзе захоўвывацца сухім. Кладуць на дзесяціну попелу ад 50 да 100 пудоў. З пакупных паташовых гнаёў найчасьцей ужываюцца кайніт і паташовая соль. Гэтыя гнаі падобна на сялітру, так сама крэпка выцягваюць з паветра вільгаць. Перад рассыпаньнем іх трэба добра сьцерці. На дзесяціну высеваецца кайніту 20 пудоў, а паташовай солі пудоў 6—10. Розьніцца кайніт ад паташовай солі тым, што ў кайніце паташ знаходзіцца ў стане надта маладаступным для жывеньня расьлін, а ў солі наадварот. Паташовая соль дабываецца з кайніту праз асобную яго абработку. Кайніт клайдзецца пад арны хлеб з восені, або рана вясной, а соль можа быць пасеяна незадоўга перад збожжам. Пад азімы хлеб кайніт кладзецца разам з хляўным гноям. Кайніт кладзецца найчасьцей толькі на лёгкіх грунтах, а соль на гляістых, тарпістых і другіх болей зьвязлых. Кайніт павялічваець уражай лёну, зернавога збожжа асабліва ячменю, пшаніцы і бабовых расьлін (канюшыны, гароху, вікі), а таксама быдловых і цукровых буракоў. Паташовая соль найболей кладзецца пад жыта і бульбу. Кайніт даець жывеньня расьлінам у працягу 2—3 гадоў, соль 1—2 гады. Як паташовая соль, так асабліва кайніт надта добры для ўгнайваньня сенажацяў.

Пазнаёміўшыся хоць каротка з мінэральнымі гнаямі з кожным з іх паасобку, мусім яшчэ раз зазначыць, што ня можаць ніколі адзін з іх заступіць другога. Без жаднай карысьці мы толькі выкінем грошы і працу калі напрыклад грунт бедны азотам будзем угнаіваць паташом або фосфарам, таксама калі грунт бедны на фосфар, дык без жаднай карысьці будзець угнойваньне яго паташом ці азотам. Пазнаньне патрэб свайго грунту ёсьць рэч першай вартасьці, бо ведаючы гэта можна сьмела з поўнай надзеяй на падвышку ўраджаю класьці патрэбны яму гной. А гэта пазнаецца дарогай дасьледу на ўласнай зямлі з рознымі мінэральнымі гнаямі. Хаця, як нам здаецца, на сялянскай ніве не прападзець дарма аніякі гной, асабліва-ж тут патрэбны гнаі фасфаровыя.

Вядома яшчэ, што ня ўсе расьліны маюць аднальковую патрэбнасьць у адным і тым самым корме, а дзеля гэтага неаднальково павышаюць ад іх свой ураджай; так напр., усе расьліны каласавыя найболей патрэбуюць азот і фосфар. Ячмень апрача таго надта любіць паташ. Расьліны бабовыя (лубін, гарох, віка, канюшына, боб) маюць вялікае вымаганьне паташу, а таксама многа яго патрабуюць бульба і буракі.

Умелае застасаваньне мінэральных гнаёў да грунту і расьлін забяспечыць заўсёды гаспадару ня толькі вялікі ўраджай, але таксама і ня меншы чысты даход.

**Сяляне! Чытайце сваю газэту „Сялянскую Ніву“.**

## Да беларускага настаўніцтва.

Беларускі Інстытут Гаспадаркі і культуры, згодна з аднэй з сваіх мэтаў—пашырэньня асьветы, прыступае да шырокай акцыі школьнай, якае імкнецца да закладаньня пачаткавых беларускіх школ, вучыцельскіх курсаў, гімназіяў і іншых.

У зьвязку з гэтым Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры зьвяртаецца да ўсіх настаўнікаў-беларусаў з просьбай прыняць удзел у гэтай працы пашырэньня беларускай асьветы і гэтым будаваць фундамант для лепшага жыцьця беларускага народу.

З гэтай мэтай Інстытут просіць усіх настаўнікаў беларусаў (безработных і маючых працу ў той ці іншай школе) зарэгістравацца ў Віленскім Аддзеле Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры (Завальная 7), прысылаючы пасьля запаўненьня такія анкеты:

1. Прозьвішча, імя, век і вера.
2. Адрэс.
3. Якая асьвета (настаўніцкая і агульная)?
4. Як прыгатаваны з беларусазнаўства?
5. Ці знае польскую мову?
6. Ці мае пасьведчаньне польскага грамадзянства, або польскі пашпарт?
7. Ці працуе ў школе, а калі не, то ці хоча працаваць у беларускай школе прыватнай, або публічнай?
8. У якой вёсцы або мястэчку хацеў-бы быць вучыцялем у беларускай школе?
9. Ці ў той вёсцы ёсьць польская школа, ці не?
10. Ці жыхары той вёскі падалі дэкларацыі школьныя на беларускую школу?
11. Ці вёска мае адпаведны будынак пад школу. і хто зьяўляецца ўласьнікам, у якой можа быць беларуская школа?

*Беларускі Інстытут
Гаспадаркі і Культуры.*

# ХРОНІКА.

— **Палітычная эканоміка пабеларуску.** Гр. Адам Більдзюкевіч—эканаміст, напісаў у беларускай мове падручнік для сярэдніх школ і саманавучаньня — „Асновы Грамадзкай Эканоміі“. Кніжка гатовіцца да друку.

— **Новая беларуская кніга.** Апошняй працай вядомага публіцыста, дзеяча і гісторыка В. Ластоўскага, зьяўляецца „Гісторыя беларускай кнігі“. Праца гэта, друкаваная ў Коўне, па аб'ёме, каштоўнасьці і прыгожасьці выданьня, здаецца, ня мае сабе роўных у беларускай літэратуры. З вялікай радасьцяй вітаем гэты паважны вынік адважнай навуковай дзейнасьці В. Ластоўскага.

„Гісторыю беларускай кнігі“ можна дастаць у кнігарні „Крыніца“ (Завальная 7) у цане 50 зл.

— **„Крывіч“.** Выйшаў чародны № 11 беларускага месячніка „Крывіч“ пад рэдакцыяй В. Ластоўскага ў Коўне. Як і ранейшыя нумары, месячнік адзначаецца цікавым і багатым зьместам, а так-жа прыгожым выданьнем.

— **Гаспадарчы журнал.** Паявіўся ў прадажы ў Беларускіх Кнігарнях выхадзячы ў Латвіі новы журнал пад назовам „Гаспадар“, пасьвечаны справам сялянскага земляробства.

Нам вельмі прыемна сьцьвердзіць рухлівасьць латвійскіх беларусаў у гэтак пажаданым для вёскі кірунку.

— **„Колас“.** Пад такім назовам зьявіўся першы № часопісі школьнай моладзі Беларускай Гімназіі ў Радашковічах.

— **Беларускае выдавецтва ў Лодзі.** Выдавецкае Т-ва „Компас“ у Лодзі выдала нядаўна Эвангэліі паводле сьв. Марка ў беларускай мове. Перакладзена Эвангэліі з грэцкай мовы. Кніжка высылаецца бязплатна, за зваротам кошту перасылкі.

Амэрыканскія, сэктанты як людзі практычныя, ведаюць у якой мове трэба зварачвацца да нашай вёскі, каб дабіцца сваіх мэтаў. Толькі нашым „прыродным гаспадарам“ гэта зразумець трудна.

— **Канфіскацыя.** Адміністрацыйныя ўлады налажылі арышт на № 25 літоўскай часопісі „Кэліас“ за стацьцю п. н. „Прамова Прэзыдэнта Літоўскай Рэспублікі ў дзень аткрыцьця Літоўскага Сойму“. Справа скіравана ў суд.

— **Капрысы „Беларускай Справы“.** „Беларускай Справе“ чамусьці не спадабалася свае ўласнае імя і „перахрысьцілася“ на „Народную Справу“, якая раз толькі ўбачыўшы сьвет „адхрысьцілася“ на свой стары назоў. Трэба жалець, што гэта мэтамарфоза не мяняе яе спосабу змаганьня з інакш думаючымі.

— **Беларускія календары.** Выдаўцы беларускага календара ў Вільні прыступілі да ўкладу новых календароў кніжных, зьдзіраных і насьценных на наступны 1927 год.

— **Што не дазволена забіраць за падаткавыя залегласьці.** Згодна з апошняй інструкцыяй міністра скарбу, ад апісываньня на аплату падаткаў звальняюцца такія аб'екты: 1) сумы зложаныя на ашчадныя кніжкі П. К. О. да вышыні 2500 зл.; 2) штодзенная ношаная вопратка, неабходна тасаваная да пары году; 3) бяльё і гаспадарчыя прылады ў ліку патрэбным для даўжніка і яго сям'і да штодзеннай патрэбы; 4) ложка і пасьцель гэтых асоб; 5) трыманыя ў хаце запасы прадуктаў, збожа і апалу ў норме патрэбнай да ўтрыманьня дому на працяг месяца; 6) абразы сьвятых ня маючыя дарагіх убораў; 7) фамілійныя паперы і іншыя ўласныя даўжніка за выняткам працэнтавых папераў; 8) неабходнае службовае ўмундаразаньне.

— **З жыцьця Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры.** У часовы склад Цэнтральнага Ураду Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры ўвайшлі: старшыня — гр. Адам Більдзюкевіч, віцэ-старшыня — гр. Аляксандр Бабянскі, скарбнік — пас. кс. Адам Станкевіч, тэхн. кір. — сэн. Аляксей Назарэўскі, сэкрэтар—Гальяш Леўковіч. Рэвізыйная Камісія: сэн. Вяч. Багдановіч, сэн. Аляксандр Уласаў, пас. Васіль Рагуля.

# Пісьмы з вёскі.

### Паліцыянты б'юць.

Вёска **Лысіца**, Гарадзейскай гміны, Несьвіскага павету.

Слаба я пісаць магу, але хочыцца напісаць, што ў нас робіцца, бо напрасна я чакаў, каб гэта зрабілі нашы інтэлігэнты, якія дагэтуль сьпяць пакуль і іх сонных паліцыянты калі не аддубасяць.

У 1925 годзе ў нашай Лысіцы ўтварылася надта „важная“ ўстанова — пастарунак паліцыі. Разгледзіліся паліцыянты, што народ наш цёмны, ды пачалі яго вучыць па своему: няпадабаецца ім хто—пазавуць яго па пастарунак, ды ў морду і за дзверы. Так было нядаўна з Вінцэсям Жыўням. Спатыкае яго камэндант і кажа: „прыйдзі да мяне як пацямнее“. Вінцэсь прышоў, было яшчэ сьветла. Камандант загадаў прыйсьці йзноў як пацямнее. Той так і зрабіў. Тады паліцыянт наставіў Жыўню сінякоў няведама за што, ды напастрашыў яшчэ, каб нікому не казаў, бо дастане больш. Нешта падобнае здарылася з Адамам Кабніцкім, рожніца толькі тая, што гэтага паліцыянт скатаваў у яго ўласнай хаце, падчас як жонка паліцыянта ў панадворы пільнавала каб ніхто чужы ў хату не вайшоў.

А вось ашчэ адзін выпадак: перад сямым Вялікаднем задумалася гэтаму самаму паліцыянту Рынкевічу пазваць на пастарунак Уладзіка Шэрку, якога зьбіў нічога ня пытаючы.

Быў так-жа зьбіты і на'т аж да крыві Станіслаў Сулетыцкі.

Нашы сяляне цяпер так напужаны, што сядзяць толькі, ды маўчаць, а паліцыянты ўсюды лётаюць зубы выскаліўшы.

Прашу аб гэтым зьмясьціць у „Сял. Ніве“. Хай усе ведаюць, што парабляюць „нашы“ паліцыянты. *М.*

### Памяшаныя без апекі.

Вёска **Дарані**, Ваўкавыскага пав.

Есьць у нашай гміне няпоўнага розуму кабета, каторая ходзіць па вёсках і б'ець па начы вокны. Мала таго: ад яе нашы дзеці навучаюцца вельмі брыдкіх слоў.

Аднаго разу прыходзіць гэта кабета і ў вёску Дарані і б'е шыбы паначы, пужаючы напрацаваных і сьпячых людцаў. Ці-ж няма ў Польшчы прытулкаў для такіх людзей? Мне здаецца, што ўжо пара падумаць каму трэба, каб гэтай памяшанай кабеце найсьці адпаведнае мейсца.

*Нецярплівы.*



Рэдактар і выдавец Ст. Вольскі.
Беларуская Друкарня ім. Фр. Скарыны—Вільня, Людвісарская 1.